

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address: P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World.
Published by the Belarusan American Ass'n Inc.

№ 472 Травень 2002 г.
Год выданьня 52


# САКАВІК У КАНАДЗЕ

Найвялікшым сьвятам, якое яднае беларусаў замежжа, зьяўляецца Дзень абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Як сустрэлі яго беларусы Канады?

Па традыцыі, урачыстыя паседжаньні, прысьвечаныя 25-му Сакавіка, прайшлі у буйнейшых беларускіх асяродках у Таронта, Монтрэалі і Атаве. У іх прынялі ўдзел больш за 170 прадстаўнікоў ранейшай і цяперашняй хваляў эміграцыі. Сьвяткаваньні прайшлі ў вельмі цёплых і прыемных умовах, у прыгожа прыбраных у нацыянальныя колеры памешканьнях, з малітвамі за Беларусь айца Вячаслава, сьвятара Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, са сьпяваньнем гімну БНР, з дакладамі пра гістарычную дату, з канцэртамі й тэатралізаваным прадстаўленьнем, са смачнымі беларускімі пачастункамі.

У Таронта, у будынку Беларускага грамадска-рэлігійнага цэнтра, удзельнікаў сьвяткаваньня віншавалі ветэраны беларускага руху ў Паўночнай Амэрыцы сп-ня Раіса Жук-Грышкевіч і пісьменьнік Кастусь Акула, а таксама Старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады сп. Пётр Мурзёнак. З задавальненьнем усе паслухалі цікавы й грунтоўны даклад, зроблены прадстаўніцай маладога пакаленьня сп-яй Вольгай Яноўскай, зь якім яна па запрашэньню выступіла пазней і ў канадыйскай сталіцы. Віншаваньні ад беларусаў з розных краінаў сьвету зачытала сп-ня Надзея Дробіна, старшыня таронтаўскага аддзелу ЗБК. Затым адбыўся канцэрт маладога калектыву фальклёрнага мастацтва пад кіраўніцтвам сп-ні Віялеты Кавалёвай. Упэўнены, што калі-б вы пачулі беларускія народныя песьні ў іхным выкананьні, то адразу-ж захацелі-б запрасіць гэты ансамбаль у госьці. У гэтым ужо пераканаліся беларусы Атавы, бо фальклёрная група "Ручнічок" ня толькі цудоўна сьпявае, але можа завесьці з вамі карагод Па заканчэньні сьвята ў Таронта група беларусаў паехала да гарадзкой ратушы рабіць здымкі, дзе ў гэты дзень вось ужо на працягу 30-ці гадоў на галоўным флагштоку ўздымаецца наш нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг.

У Атаве сьвяткаваньне праходзіла ў City Hall. Удзельнікаў сьвята вітала сп-ня Івонка Сурвілла, Старшыня Рады БНР. Пасьля віншаваньняў і ўрачыстага дакладу госьці зь вялікай цікавасьцю прагледзелі відэафільм, зроблены сябрамі "Маладога Фронту", пра падзеі апошніх гадоў, якія адбыліся ў Беларусі. На выставе малюнкаў дзяцей з Чавускага раёну можна было набыць копіі, а атрыманыя грошы пайшлі у Беларуска-Канадыйскі Фонд дапамогі дзецям Чарнобыля. Пасьля цудоўнага выступленьня фальклёрнага ансамбля "Ручнічок" усе з захапленьнем слухалі інструмэнтальную музыку (скрыпкі, гітара, бубен) у выкананьні Улады й Рамана Шамецькаў, Вольгі й Міхася Рыкавых. Выдатная акустыка залі спрыяла эмацыйнаму ўспрыняцьцю знаёмых беларускіх мэлёдыяў.

Вельмі прыстойна, прыгожа і арыгінальна прайшло сьвяткаваньне у Мотнрэалі, у арганізацыі якога ўжо па традыцыі бярэ ўдзел уся сям'я сп. Анатоля Храноўскага, аднаго са старэйшых актывістаў беларускага руху ў Квэбэку. Прыйшлі ветэраны, дзеткі чыталі вершы, адбыўся й невялікі спектакль "Батлейкі". Напачатку сп-ня Івонка Сурвілла і сп. Пётр Мурзёнак павіншавалі прысутных са сьвятам, пажадалі посьпехаў у беларускіх справах, здароў'я, шчасьця і ўдачы на новай зямлі.



Удзельнікі дэманстрацыі ў Атаве.

Сябры Згуртаваньня Беларусаў Канады правялі 6-га красавіка ў канадыйскай сталіцы пікетаваньне беларускай амбасады й шэсьце па вуліцах Аттавы. Каля 40 удзельнікаў з Таронта, Аттавы, Монтрэалю, палову зь якіх складалі маладыя людзі, выразшылі такім чынам адзначыць ідэі незалежнай Беларусі, выказаныя ў Акце ад 25-га Сакавіка 1918-га году, а таксама падтрымаць акцыі "Маладога Фронту", якія праходзілі па ўсёй Беларусі пад лёзунгам "Беларусь у Эўропу". Дэманстранты ў Атаве ішлі пад лёзунгамі "Беларусь у Эўропу", "Стоп Лукашэнка", "Не - дыктатарскаму рэжыму ў Беларусі", "Жыве БНР", "Няхай жыве Беларусь".

Думаецца, што мінуўшыя сьвяткаваньні паспрыяюць больш цеснаму яднанню беларусаў у Канадзе, разьвіцьцю й падтрыманьню культурных і гістарычных традыцыяў беларускага народу, і будуць пачутыя на радзіме.

**Васіль Чутны**

# ЗВАРОТ
## да беларускай грамадзкасьці

*28-га красавіка 2002-га году.*

Больш як паўстагодзьдзя найбуйнейшы цэнтр беларускасьці ў Заходняй Эўропе - Беларуская каталіцкая місія ў Лёндане - служыў і працягвае служыць культурным, рэлігійным, адукацыйным і асьветным патрэбам нашае нацыянальнае супольнасьці. Сёньня сюды прыйшла бяда. Цэнтру патрэбная падтрымка суродзічаў.

Ад самага свайго заснаваньня ў 1947 г., місія была й застаецца ня толькі асяродкам рэлігійнага жыцьця, але таксама месцам захаваньня й узгадаваньня духу беларускасьці. Яна - дом для нашых нацыянальных і дабрачынных арганізацыяў (Згуртаваньня Беларусаў Вялікае Брытаніі (ЗБВБ), Англа-Беларускага Таварыства, Камітэта дапамогі ахвярам радыяцыі), беларускай дзіцячай школкі. Місія - месца, куды беларусы на працягу дзесяцігодзьдзяў зьбіраюцца ў дні нашых нацыянальных сьвятаў, дзе ладзяцца лекцыі й навуковыя ды літаратурныя канферэнцыі, дзе выдаюцца беларускія кнігі й газэты, робяцца пераклады. У пачатку 1970-х гадоў сьвятары каталіцкае місіі сталі заснавальнікамі й першымі ахвярадаўцамі Бібліятэкі імя Ф. Скарыны - славутай Скарынаўкі, найбуйнейшага па-за межамі Бацькаўшчыны збору беларускай і беларусазнаўчай літаратуры. Багатае й разнастайнае духоўнае і культурнае жыцьцё беларускае супольнасьці ў Брытаніі ды Эўропе немагчыма ўявіць без каталіцкае місіі ды без ахвярнае працы ейнага кіраўніка, а. Аляксандра Надсана. У часы, калі беларускае жыцьцё на Бацькаўшчыне знаходзілася пад уціскам, Лёнданскі асяродак застаецца адным з апірышчаў нацыянальнага духу.

Сэрцам Беларускае місіі ды рэлігійна-культурнага цэнтру ў Лёндане зьяўляецца Марыян Гаўз (Марыйны дом) - дом, што месьціць царкву сьв. Апосталаў Пятра й Паўла. Тут ужо больш за 50 гадоў творыцца штодзённая малітва за нашую Бацькаўшчыну і народ, тут гучыць Боская Літургія па-беларуску, тут беларусы вянчаюцца, хрысьцяць дзяцей, адпяваюць памёрлых, сюды прыходзяць памаліцца шматлікія госьці з Беларусі й дыяспары. Гэты будынак быў набыты на ахвяраваньні беларусаў усяго сьвету. У цяжкія паваенныя часы, апынуўшыся на чужыне, людзі часта аддавалі апошняе, бо верылі, што гэтым засноўваюць сталы беларускі асяродак. Доўгі час таямніцай для ўсіх нас быў факт, што Марыян Гаўз тады ня стаў маёмасьцю беларусаў. У выніку маніпуляцыяў і насуперак волі ахвярадаўцаў, ён перайшоў ва ўласнасьць структураў Каталіцкай Царквы ў Ватыкане. Цяпер Кангрэгацыя Ўсходніх Цэркваў, якая заяўляе правы на Марыян Гаўз, патрабуе высяленьня зь яго беларускае місіі й царквы.

Калі вы хочаце дапамагчы ў справе ўратаваньня Марыян Гаўзу, дасылайце лісты кіраўніку Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў, кардыналу Ігнацыю Мусу Давуду на адрас:

***Sua Eminenza Cardinale Ignace Moussa Daoud***
***Prefetto della Congregazione per le Chiese Orientali***
***00120 Citta del Vaticano***
**VATICAN CITY**

Ахвярадаўца, сябра ЗБВБ **Сыльвестар Будкевіч**, ахвярадаўца, сябра ЗБ Францыі "Хаўрус" **Міхал Навумовіч**, Старшыня ЗБВБ **Алена Міхалюк**, Сакратар рады Бібліятэкі імя Ф. Скарыны **Джым Дынглі**, сябра Беларускае дабрачыннае рады **Сяргей Дзейка**, сябра рады Англа-Беларускага Тав-ва **Джоўн Дзейка**, бібліятэкар Бібліятэкі імя Ф. Скарыны **Юрась Лаўрык**, сябры ЗБВБ **Юлія Баўдзей**, **Ірына Дубянецкая**, **Ігар Іваноў**, **Ігар Лабацэвіч**, **Караліна Мацкевіч**, **Мікола Пачкаеў**.

На 6-й бачыне газэты мы прапануем узор ліста да кардынала. Калі вы хочаце напісаць свой тэкст, то да арыгіналу пажадана далучыць пераклад на італьянскую, францускую або ангельскую мовы.

***Працяг на бач. 6***

# САКАВІК У АЎСТРАЛІІ

## ВІКТОРЫЯ

Угэтым годзе ў Вікторыі ўгодкі 25-га Сакавіка 1918-га году сьвяткаваліся ў Мэльбурне 31-га сакавіка Беларускім Цэнтральным Камітэтам супольна з парафіяй БАПЦ Сьв. Віленскіх Пакутнікаў. Беларуская грамада, як і заўсёды раніцай, а гадзіне 10-й пачала запаўняць царкву, каб прысутнічаць на Сьв. Літургіі ды памаліцца Ўсявышняму, каб даў беларускаму народу незалежнасьць і дабрабыт. Хор пад кіраўніцтвам М. Усьцінава сьпяваў цудоўна, за што ім належыць падзяка.

Пасьля Сьв. Літургіі настаяцель прыходу, протапрасьвіцер Аляксандар Кулакоўскі перад пачаткам малебну за Беларускі Народ сказаў вельмі патрыятычную прамову пра гістарычны дзень 25-га Сакавіка, што прывяло прысутных да ўспаміну пра мінулыя часы. А былі яны й вясёлымі падчас нашага адраджэньня й сумнымі, асабліва калі пакідалі Радзіму і ехалі ў няведамае. Асабліва ў старэйшых людзей нявольна накаціліся сьлёзы.

У канцы ўсе ўсталі на калені й адсьпявалі "Магутны Божа". А. Аляксандар запрасіў усіх прысутных у залю, каб прадоўжыць сьвецкую частку ўрачыстасьці. Пасьля кубка гарбаты старшыня ЗЦК сп. Паўла Гуз прывітаў прысутных ды стаў зачытваць дасланыя віншаваньні, адзначыўшы нашую беларускую нядбайнасьць, а менавіта: трэба было-б, каб на гэты дзень беларуская грамада была куды большай як сабралася. Магчыма, у выніку такой нядбайнасьці мы й на Бацькаўшчыне маем тое, што прыдбалі.



Прамоўца зачытаў прывітаньне й Зварот да беларускага народу Старшыні Рады БНР спні Івонкі Сурвілла, а таксама прывітаньні сп. Р. Цупрыка ад Беларускага Кангрэсовага Камітэту, сп. В. Зайкі ад Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, сп. П. Гуза ад Выканаўчага Камітэту Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі, сп. М. Раецкага ад Беларускага Аб'еднаньня ў Заходняй Аўстраліі, сп. В. Каранеўскага ад Беларускага Аб'еднаньня ў Паўднёвай Аўстраліі, сп. П. Саўчанкі ад рэдакцыі газэты "Рунь", сп. М. Клакоцкага ад рэдакцыі газэты "Беларус", сп. Х. Нюнькі ад Таварыства Беларускай Культуры ў Літве, ад пісьменьніка Яўгена Лецкі.



Потым слова атрымаў сп. Алег Шнэк, які прачытаў даклад на тэму дня. Сп. Ян Барысевіч у сваёй кароткай прамове апісаў прабег гісторыі ад 1918-га году да нашых дзён, адзначыўшы, што каб не было БНР, то не было-б і Рэспублікі Беларусь ды сёньняшняга "хрыстапрадаўцы" Лукашэнкі.

Потым пачалася мастацкая частка, у якой сп-ня Вера Шэйпак прачытала верш Міхася Гарасюкова "Табе, Беларусь", а сп. С. Жук (Алесь Холад) свой собскі верш "Сакавік", напісаны адмыслова да гэтага дня, і другі - "Запавет". На гэтым мастацкая частка скончылася.

Старшыня Павал Гуз падзякаваў і папрасіў усіх устаць і адсьпяваць гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Пасьля гэтага ўсе ў вясёлым настроі пачалі абменьвацца думкамі пра бягучыя справы ды ўспамінамі. На гэтую нагоду сп-ры П. Гуз і Р.Шнэк раздалі надыйшоўшыя газэты "Беларус", каб гэтым самым прыдбаць новых падпісчыкаў. Пусьціўшы падпісную лісту на Дар Сакавіка, сабралі 290 аўстралійскіх даляраў.

Пакідаючы залю, усе жадалі адзін аднаму весела правесьці надыходзячыя сьвяты Вялікадня ды разьвіталіся да новай сустрэчы.

*Паўлюк Дуброўскі.*

## ПАЎДНЁВАЯ АЎСТРАЛІЯ

Парафія Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Сьв. Апосталаў Пятра і Паўла ў Адэлайдзе адзначала Дзень Незалежнасьці Беларусі ў нядзелю 24-га сакавіка. Урачыстасьць пачалася пасьля Божай службы. Настаяцель царквы пратапрасьвіцер Пятро Касацкі адправіў малебен за Беларусь і беларускі народ, які пачаўся адсьпяваньнем малітвы "Магутны Божа". Вернікі сьпявалі малітву стаўшы на калені. Два чалавекі трымалі сьцягі, беларускі бел-чырвона-белы й аўстралійскі. Пратапрасьвіцер сказаў вельмі прачулую пропаведзь за Беларусь.

Па заканчэньні малебні ўдзельнікі сьвяткаваньня перайшлі ў прыцаркоўную залю, дзе сястрыцтва прыгатавала вельмі смачны абед. Стравы ўсе былі посныя і рыбная, але вельмі смачна прыгатаваныя. Старшыня Міхась Шчурко-малодшы папрасіў сьвятара блаславіць ежу на стале. Усе ўсталі, сьвятар сказаў малітву, блаславіў ежу, і пасьля гэтага пачаўся абед.

Калі ўсе падмацаваліся, Старшыня адкрыў урачыстую акадэмію, сказаўшы першае слова па-ангельску. Пасьля перадаў слова сп. Уладзімеру Акавітаму, які папрасіў выйсьці царкоўны хор наперад. Хор разам з удзельнікамі сьвяткаваньня адсьпяваў беларускі нацыянальны гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Пасьля гэтага хор пад кіраўніцтвам сьвятара выканаў усім вядомыя й любімыя песьні "Люблю наш край, старонку гэту..." і "Трэці год на выгнаньні ў чужыне...". Прысутныя ўзнагародзілі сьпевакоў доўгімі й гучнымі воплескамі.

Затым сп. У. Акавіты прачытаў рэфэрат на тэму Дня Незалежнасьці Беларусі, напомніўшы аб падзеях 84-гадовай даўніны, аб няроўным змаганьні з чырвонымі маскоўскімі дывізіямі за незалежную Беларусь. Пасьля рэфэрату сп. Акавіты прадэклямаваў вершы Натальлі Арсеньневай "Прысяга" і Міхася Машары "25-га Сакавіка".

Імпрэза ў прыязнай і сяброўскай атмасфэры цягнулася да 4-й гадзіны папаўдні, калі ўдзельнікі сьвяткаваньня ў добрым настроі пачалі разыходзіцца.

*Уладзімер Акавіты*

## ЗАХОДНЯЯ АЎСТРАЛІЯ

Сёлета, а гэта ўжо 51-ы раз з чаргі, беларусы Заходняй Аўстраліі адзначалі гадавіну абвешчаньня 25-га сакавіка 1918-га году незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі ў нядзелю 24-га сакавіка ў Беларускім Народным Доме на 43 Драйнан вуліцы - Байсвотэр.

Урачыстасьць была папярэджаная службай Божай, якую адправіў айцец Уладзімер Зайка. Затым у агульнай залі вітаў прыбыўшых з 84-мі ўгодкамі абвешчаньня незалежнасьці БНР і падзякаваў за ўзяцьцё ўдзелу ў адзначэньні Старшыня Беларускага Аб'еднаньня ў Заходняй Аўстраліі сп. Міхась Раецкі (малодшы).

Прынагодныя вітаньні сурodзічам у Заходняй Аўстраліі былі атрыманыя ад Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы й Выканаўчага Камітэту Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі сакратара Паўлюка Гуза, якія прачытаў сп. Міхась Раецкі. Па-ангельску даклад на тэму дня зрабіў Старшыня Беларускага Аб'еднаньня ў Заходняй Аўстраліі, а па-беларуску сп. Міхась Раецкі. Абодва даклады былі суправоджаныя воплескамі.

Пасьля дакладаў была праведзеная зборка ахвяраваньняў на Дар Сакавіка і адбыліся разважаньні адносна аднаўленьня выхаду газэты "Беларус". Новы нумар газэты, які толькі што атрымалі ад адказнага рэдактара газэты сп. Марата Клакоцкага быў спатканы вельмі прыхільна.

Кэнінгтон. 24-га сакавіка 2002-га году

*РМ.*

# Беларусь за месяц



## ПАМЁР ІГАР ГЕРМЯНЧУК

29-га красавіка памёр журналіст і выдавец Ігар Гермянчук. Ён пражыў толькі 41 год (нарадзіўся 1-га студзеня 1961-га году ў в. Стракавічы Сьветлагорскага раёну). Вучыўся ў БДУ, дзе напрыканцы 70-х і далучыўся да незалежніцкага студэнцкага аб'яднаньня "Беларуская Сьпеўна-Драматычная Майстроўня". Ад 1991-га году. І. Гермянчук узначальваў газэту "Свабода". У 1991--1995-х гадох быў дэпутатам Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня, дзе ўваходзіў у фракцыю БНФ. Але найбольшую вядомасьць атрымаў на пасадзе галоўнага рэдактара "Свабоды". Пры ім "Свабода" была найбуйнейшай незалежнай беларускай газэтай, а ейны наклад сягаў дзясяткаў тысячаў асобнікаў. У лістападзе 1997-га году "Свабоду" зачынілі, але 16-га студзеня 1998-га году яна адрадзілася пад назвай "Навіны". З-за канфлікту з выдаўцом "Навінаў" Паўлам Жуком Гермянчук пакінуў газэту й заснаваў грамадзка-палітычны часопіс "Кур'ер", першы нумар якога выйшаў у сакавіку 2000-га году. З таго часу выйшла 9 нумароў. "Кур'ер", які трывала заняў сваю нішу на полі дэмакратычнай прэсы, трымаўся на адным чалавеку - сп. Ігару. Цяпер Ігара Гермянчука няма.

## СУД НАД "ПАГОНЯЮ"

Мы ўжо паведамлялі, што ў Горадні за абразу і паклёп на прэзыдэнта РБ завялі крымінальную справу на галоўнага рэдактара "Пагоні" Міколая Маркевіча і журналіста Паўла Мажэйку. 1-га красавіка журналісты гораду зладзілі пікет у абарону газэты. Міліцыянты затрымалі ўсіх, і наступным днём адбыўся сымбалічны суд: усім журналістам вынесьлі папярэджаньні. 5-га красавіка адбыўся новы пікет салідарнасьці. У ім бралі ўдзел 13 чалавек. Пікет пратрываў некалькі хвілінаў: усе журналісты былі затрыманыя. Прысуды на гэты раз былі больш жорсткія. Анджэй Пісальнік і Стас Пачобут атрымалі 10 сутак арышту, Андрэй Мялешка - 8 сутак, Аляксандар Дварэцкаў - 4 сутак, Віктар Руднік і Зьміцер Ягораў - 3 сутак. Астатніх журналістаў аштрафавалі на 200 - 300 тыс. бел. рублёў ($110-160).

Аднак у двубоі ўлада-журналісты перамаглі апошнія. 9-га красавіка мусіў распачацца суд над М.Маркевічам і П.Мажэйкам. У абарону журналістаў выказаліся нобелеўскі ляўрэат па літаратуры Чэслаў Мілаш, прэм'ер першага незалежнага ўраду Польшчы Тадэвуш Мазавецкі, галоўныя рэдактары асноўных польскіх выданьняў. У залі суда сабралося блізу 150 чалавек, у тым ліку журналісты й праваабаронцы са сталіцы. Былі нават тэлевізійныя групы з Расеі й Польшчы. Такі паварот падзеяў напалохаў улады. Было абвешчана, што судзьдзя моцна захварэў і шпіталізаваны, а новы судзьдзя хоча разабрацца ва ўсіх нюансах справы. Працяг суда - у траўні.

## ЗЬЕЗД АГП

6-га красавіка ў Менску прайшоў VI зьезд Аб'еднанай Грамадзянскай Партыі, у якім бралі ўдзел 205 дэлегатаў з розных рэгіёнаў Беларусі. Зьезд меў на мэце пераабраньне кіраўніцтва, а таксама выпрацоўку новай стратэгіі ў дзейнасьці партыі. Было прынятае рашэньне пра ўдзел у муніцыпальных выбарах у 2003-м годзе. Старшынём партыі застаўся Анатоль Лябедзька.

АГП апошнім часам вельмі актыўная і імкнецца ачоліць беларускі апазыцыйны рух. У часе зьезду сп. Лябедзька акрэсьліў крэда партыі: "Супраць нас пусьцілі каток, які закатвае ў асфальт гісторыю, мараль, людзей. Але мінае час, і мы, нібы трава, скрозь бэтон цягнемся да сонца. І справа не ў постацях. Ідэя жыць у багатай, вольнай краіне - гэта магутная сіла. Гэта крыніца, зь якой чэрпае сілы не адно пакаленьне". АГП наскрозь расейскамоўная і актыўна супрацоўнічае з расейскімі правымі партыямі.

## СПРАВА НОВАГА ГІМНУ

9-га красавіка мусілі быць падведзеныя вынікі другога туру конкурсу на дзяржаўны гімн краіны. У Менскай Опэры адбылося праслухоўваньне музыкі й тэкстаў песень: два варыянты на музыку Нестара Сакалоўскага на словы Уладзімера Карызны і Зьмітра Марозава, "Красуй, Беларусь!" Васіля Раінчыка і Леаніда Пранчака, і "Радзіма, мая дарагая" Уладзімера Алоўнікава і Алеся Бачылы. Журналісты, што прысутнічалі, сьведчылі, што чальцы камісіі моцна ўпадабалі "Красуй, Беларусь". Але канчаткова ня вызначыліся.

## СПАЛІЛІ НАМЁТ У КУРАПАТАХ

У ноч з 18-га на 19-га красавіка быў падпалены вялікі вайсковы намёт валанцёраў у Курапатах. У намёце знаходзіліся тры чалавекі: Ірына Вяткіна, Васіль Парфянкоў і Алесь Поклад. Сярод ночы Васіль Парфянкоў прачнуўся ад паху дыму. Васіль і Ірына выскачылі з намёту, і тады агледзеліся, што іхняга сябра няма. Яны кінуліся ў палаючы намёт і выцягнулі хлопца. Алесь моцна абгарэў (ногі, шыя, твар), яго шпіталізавалі й рабілі пераліваньне крыві.

Двума днямі раней міліцыя затрымала Алеся Поклада й Васіля Парфянкова ў Курапатах і пратрымала ноч у пастарунку. 22-га красавіка мусіла быць судовае пасяджэньне, хлопцаў вінавацяць у дробным хуліганстве. Але суд пакуль перанесьлі.

Цікава, хто падпаліў намёт. У першыя дні пасьля трагедыі высоўваліся розныя меркаваньні. Магчыма, гэта зрабілі спэцслужбы ці звычайныя хуліганы, якім валанцёры заміналі "культурна адпачываць на прыродзе". Мажліва і апанэнты валанцёраў, бо багата людзей, якія робяць сабе імя на Курапатах. Канкурэнцыя ў барацьбе за парэшткі расстраляных не зьніжаецца.

## АКЦЫЮ РАЗАГНАЛІ

19-га красавіка грамадзкая ініцыятыва "Хартыя-97" і падпарадкаваная ёй маладзёвая арганізацыя "Зубр" зладзілі акцыю "Так жыць нельга". Акцыя мусіла прайсьці пад сацыяльнымі лёзунгамі: павышэньня заробкаў, пэнсіяў, стыпэндыяў. Каля тысячы чалавек сабраліся на Плошчы Якуба Коласа ў Менску. Гарвыканкам дазволіў шэсьце да Плошчы Бангалор. Аднак кіраўнікі "Хартыі" вырашылі пайсьці да Бангалору другім шляхам, але здолелі прайсьці толькі квартал. Некалькі ланцугоў АМАПа сустрэлі мітынгоўцаў. Людзей зьбівалі дубінкамі й кідалі ў загадзя падрыхтаваныя аўтобусы. Усяго затрымалі 74 чалавекі. Потым запрацавалі суды, арыштаваных асуджалі на тэрміны ад 3-х да 15 сутак, ці штрафавалі ў памеры ад 200 тыс. да 1,5 млн. беларускіх рублёў. Арганізатары акцыі атрымалі 15 сутак арышту, кінарэжысер Юры Хашчавацкі - 10 сутак.

## "ЧАРНОБЫЛЬСКІ ШЛЯХ-2002"

Арганізатары акцыі падалі заяўку ў гарвыканкам, дзе прасілі дазволіць шэсьце ад Плошчы Якуба Коласа па праспэкце Скарыны да Плошчы Свабоды. Аднак гарвыканкам адмовіў, прапанаваўшы альтэрнатыўны варыянт: Акадэмія Навук - Плошча Бангалор. Арганізатары акцыі пагадзіліся.

А 17.30 на пляцоўцы перад Акадэміяй Навук сабралася прыкладна 4,5 тыс. чалавек і праз нейкі час рушылі да плошчы Бангалор. Да плошчы не дайшлі, спыніўшыся перад унівэрсамам "Рыга" (на рагу Куйбышава і Сурганава). Радыкальна настроеныя "Зубры" прапаноўвалі "прарывацца" ў цэнтар гораду. Пасьля адмовы "зубры" згарнулі свае транспаранты й зьніклі. А людзі запалілі сьвечкі й 16 хвілінаў правялі ў ціхай малітве. Па хвіліне за кожны год, што прайшоў пасьля аварыі.

## ЗАЧЫНЯЮЦЦА ЧАСОПІСЫ

Міністар інфармацыі Міхаіл Падгайны прыняў рашэньне пра стварэньне зь беларускіх культурніцкіх выданьняў мэдыя-холдынга "Літаратура і мастацтва". Кіраваць холдынгам, які аб'яднае беларускія часопісы, будзе дэпутат Палаты прадстаўнікоў, вядомы сваімі панславісцкімі й антыбеларускімі выказваньнямі, Сяргей Касьцян. Дапамагаць яму будуць галоўная рэдактарка "Всемирной литературы" Таіса Бондар і адыёзны юрыст-журналіст Яўген Новікаў.

Але такое прызначэньне яшчэ палова бяды. Здымаюцца рэдактары беларускіх часопісаў: замест Сяргея Законьнікава ў "Полымі" будзе прапрэзыдэнцкі Мікола Мятліцкі, а часопіс "Нёман" узначаліць адыёзная радыёжурналістка Ніна Чайка. На працягу месяца былыя рэдактары мусяць здаць свае справы новаму кіраўніцтву. Будуць звальняць і рэдакцыі.

## КРАІНА ЭКСПЭРЫМЭНТАЎ

Нам. генсека ААН японец Кенза Ашыма прыязджаў 7-9-га красавіка ў Беларусь. У чарнобыльскай зоне ўсьмешлівыя маладзіцы паднесьлі зьбянтэжанаму японцу хлеб-соль (у Хірасіме так ня робяць). На прэс-канфэрэнцыі ў Менску Ашыма сказаў, што ў чарнобыльскай зоне "трэба ствараць клімат, пры якім людзі стануць гаспадарамі асабістага лёсу..."

А першы з чарнобыльскіх праектаў ААН прадугледжвае "стварэньне цэнтраў аказаньня паслугаў па разьвіцьці малых прадпрыемстваў, падсобных гаспадарак і каапэратываў. Сяляне будуць атрымліваць кансультацыі па вядзеньні гаспадаркі на забруджаных тэрыторыях і па зьніжэньні ў ёй узроўню радыёнуклідаў". Праграму прапанаваў не Лукашэнка, а рэзыдэнт-каардынатар ААН у Беларусі Ніл Бунэ. Даволі празрыстыя і шчырыя заявы ды праекты ААН сьведчаць пра падрыхтоўку буйнамаштабнага экспэрымэнту над беларусамі, што жывуць на атручаных тэрыторыях. Галоўная мэта міжнародных арганізацыяў у пытаньні Чарнобылю ў Беларусі тая-ж, што і рэжыму Лукашэнкі: затрымаць мільёны людзей на чарнобыльскіх землях, прымусіць іх весьці сельскагаспадарчыя працы й вытвараць атручаную прадукцыю дзеля спажываньня ўсім насельніцтвам краіны. Абяцаныя мэдычныя цэнтры будуць сачыць за тым, як мы будзем хварэць і паміраць.

Гаспада-немцы таксама прыклалі руку да разгортваньня антыгуманнага экспэрымэнту. У лесе на ўскраіне Гомлю вядзецца будаўніцтва калясальнага комплексу. На платах будоўлі няма пашпарту - інфармацыі з назвай і парамэтрамі аб'екта, імёнамі фірмаў, замоўшчыкаў і г.д. Але людзі ведаюць, што гэта будуецца радыялягічны дзіцячы цэнтар на некалькі тысячаў пацыентаў. Будуецца на нямецкія грошы. Пераразаць чырвоную стужку прыязджала ў свой час жонка канцлера Коля. Здаецца, цудоўная справа. Але чаму такі цэнтар будуецца не на чыстай зямлі, а на забруджанай радыёнуклідамі? Чаму тэрыторыя ачэплена дзьвума радамі загароджы і ахоўнымі вежамі? Чаму на будоўлю нікога не пускаюць? Чаму ўся мэдычная установа нагадвае Асьвенцым? Адказ адназначны: рыхтуецца цэнтар "навуковых" дасьледваньняў над беларускімі дзецьмі.

Міжнародная атамная мафія рыхтуецца да выбуху хваробаў, выкліканых пражываньнем у чарнобыльскай зоне.

## ВЫЙШЛІ Ў КРАСАВІКУ

А вось недзяржаўныя выданьні не баяцца ўладаў. Напрыканцы красавіка выйшаў апошні (№5-6) за 2001-ы год нумар часопіса "Спадчына". У ім друкуецца працяг з папярэдняга нумару ўспамінаў нацыянальнага дзеяча Дзьмітрыя Касмовіча "За вольную і суверэнную Беларусь". Гэтым разам аўтар распавядае пра сваю грамадзкую дзейнасьць у савецкіх установах у 1939-1941-м гадох. Працягваецца друк артыкулаў Юркі Віцьбіча "Наша спадчына прамаўляе", зьмешчаная п'еса Францішкі Ўршулі Радзівіл "Судзьдзя, пазбаўлены розуму", артыкулы Ежы Кавальчыка "Дойлідзкая школа ў Вялікім Княстве Літоўскім" і Натальлі Гардзіенкі "Постаць жанчыны на старонках старалітоўскіх выданьняў", а таксама працяг манаграфіі Захара Шыбекі "Нарыс гісторыі Беларусі: 1795-2000".

У красавіку ў серыі бібліятэчкі "Беларускага гістарычнага агляду" выйшлі "Выбраныя працы" Вітаўта Тумаша (246 с.) з прадмовамі Вітаўта Кіпеля і Раісы Жук-Грышкевіч, а ў выдавецтве "Энцыклапэдыкс" выйшаў двухтамовік "Выбраныя працаў" Янкі Станкевіча.

## ЛУКАШЭНКА І БЫКАЎ

12-га красавіка А. Лукашэнка браў удзел у ток-шоў на расейскім тэлеканале НТВ. Між іншым, дайшла размова і да пытаньняў культуры. Лукашэнка заявіў, што вырас на вершах Васіля Быкава. Журналісты й пісьменьнікі ў студыі засумняваліся ў наяўнасьці такіх. Лукашэнка пачаў горача даказваць сваё і нарэшце прывёў апошні аргумэнт: "я-ж вершы вучыў у школе напамяць".

На наступны дзень беларуская тэлевізія паўтарала тое ток-шоў. Пра вершы Быкава там не было ні слова.

*Уласны карэспандэнт*

# СЬВЯТКАВАНЬНЕ 25-га САКАВІКА Ў БЕЛАРУСКІХ АСЯРОДКАХ

## ТАРОНТА

Сьвяткаваньне ўгодкаў БНР у Таронта адбылося ў нядзелю 24-га сакавіка. Сьвятую Літургію ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага служыў айцец Вячаслаў.

Пасьля кароткага перапынку з кавай і поснымі прысмакамі старшыня аддзелу ЗБК у Тароньце Надзя Дробіна адкрыла акадэмію. Хвілінай цішыні ўшанавалі памяць загінуўшых у змаганьні за волю Бацькаўшчыны.

Першы старшыня Галоўнай Управы Згуртаваньня Беларусаў Канады К. Акула спыніўся крыху на гісторыі арганізацыі, таму што прысутным "новым беларускім канадыйцам" шмат чаго зь мінулага няведамае. Варта памятаць, што як раз у Тароньце жыцьцё арганізаванай беларускай грамады пасьля Другой Сусьветнай вайны пачалося ад сьвяткаваньня ўгодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР 27-га сакавіка 1949-га году. Прысутных было 20 пераважна маладых беларусаў. Далей сп. Акула коратка ахарактарызаваў грамадзкую і палітычную дзейнасьць Згуртаваньня на працягу доўгіх гадоў.

Былі прачытаныя прывітаньні ад Згуртаваньня Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына", Старшыні Рады БНР сп-ні І. Сурвіллы ды іншыя.

Добраапрацаваны даклад пра гісторыю БНР, пачынаючы ад абвешчаньня незалежнасьці, прачытала сп-ня Вольга Яноўская.

Група аматараў пад кіраўніцтвам сп-ні Віты Кавалёвай выканала колькі мэлядыйна-мілых народных беларускіх песьняў.

Старшыня Галоўнай Управы Беларусаў Канады, выдатны беларускі паэт Пётра Мурзёнак, які прыехаў на сьвяткаваньне са сваёю жонкаю ды іншымі з Аттавы на гэтае сьвята, прачытаў некалькі сваіх вершаў.

Закончылі сьвяткаваньне гімнам "Магутны Божа".

*К.*



*Сябры ЗБК у Таронта ля гарадзкой ратушы 25-га сакавіка 2002-га году.*

## ПРАГА

Беларуская дыяспара Чэхіі адсвяткавала 84-я ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі 23-га сакавіка. Урачыстасьць, прысьвечаную гэтаму сьвяту, прайшла ў Празе, у Люстраной залі Нацыянальнай бібліятэкі.

Угодкі БНР, што прыпадаюць на 25-га сакавіка, "дагэтуль застаюцца важнай падзеяй для апазыцыі, а не для беларускіх уладаў". Гэта падкрэсьліў, выступаючы на ўрачыстым паседжаньні ў Празе, Сяргей Навумчык, намесьнік Старшыні Рады БНР. Рада да сёньня функцыянуе ў замежжы й, паводле свайго Статуту, можа выконваць функцыі ўраду ў выгнаньні. "Дзесяцігодзьдзямі ідэалы БНР захоўваліся ў большай ступені па-за межамі Беларусі, носьбітам іх была нашая дыяспара, - адзначыў Сяргей Навумчык. - І цяпер яна бачыць сваю місію ў дапамозе тым патрыётам, якія змагаюцца за незалежнасць Беларусі на Бацькаўшчыне".

Культурная частка ўрачыстасці складалася з выступу паэта Славаміра Адамовіча, які дэклямаваў свае вершы, і выступу сьпевакоў Касі Камоцкай і Лявона Барткевіча.

Удзельнікі сьвяткаваньня ўсклалі кветкі да мемарыяльнай шыльды Францыцішка Скарыны, усталяванай на сьценах Нацыянальнай бібліятэкі Чэхіі, наведалі Альшанскія могілкі Прагі, дзе ўшанавалі памяць пахаваных там прэзыдэнтаў Рады БНР Пётры Крэчэўскага й Васіля Захаркі, а таксама славутага сьпевака Міхася Забэйды-Суміцкага.

Нагадаем, што ў 20-я гады мінулага стагодзьдзя Прага, тады сталіца Чэхаславаччыны была адным з найбольшых цэнтраў палітычнага й культурнага жыцьця беларускай эміграцыі. А з 1923-га году ў Празе месьціўся Прэзыдыюм Рады БНР, які змушаны быў пакінуць Радзіму ў 1920-м годзе ў выніку рэпрэсіяў польскіх акупацыйных уладаў. Зараз Чэхія - адна з дванаццаці краінаў сьвету, якія даюць прытулак палітычным уцекачам зь Беларусі.

*Алесь КНЯЗЮК*

## ЛЁНДАН

Сябры Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі абыходзілі 84-ю гадавіну агалошаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі 23-га сакавіка 2002-га году. Сьпярша айцец Надсон адслужыў набажэнства і малебен за беларускі народ у царкве Сьв. Пятра і Паўла ў Marian House, а пасьля адбылася ўрачыстая акадэмія ў залі беларускага культурна-рэлігійнага цэнтру. Акадэмію адкрыла Старшыня Згуртаваньня Беларусаў Вялікай Брытаніі сп-ня Л. Міхалюк, прывітаўшы ўсіх прысутных, і асабліва госьця зь Беларусі сп. Зьміцера Санько, галоўнага рэдактара выдавецтва "Тэхналёгія".

Сп. Пяткевіч зачытаў прывітаньні ад Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы з Канады й беларускіх арганізацыяў з ЗША, Аўстраліі й эўрапейскіх краінаў.

Сп. Санько, вітаючы прысутных, расказаў пра дзейнасьць кіруемага ім выдавецтва "Тэхналёгія". Ён прывёз з сабою шмат кніжак, некаторыя зь іх былі выдадзеныя зь фінансавай дапамогай Харытатыўнай сэкцыі пры ЗБВБ. Асабліва госьць зь Беларусі дзякаваў айцу Насону за яго ініцыятыву ў выданьні кнігі з матэматычнай тэрміналёгіяй, якая выйшла ў беларускай мове ўпершыню.

Сп. Мікола Пачкаеў зрабіў вельмі зьместоўны й цікавы даклад па гісторыі агалошаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918-м годзе.

Наступную частку акадэміі правялі сп-ня Вера Рыч і сп. Павал Шаўцоў. Яны дэклямавалі вершы па-ангельску і па-беларуску.

Прыгожа ўбраныя дзеткі зь нядзельнай школкі, якою кіруе сп-ня Караліна Мацкевіч, зь бел-чырвона-белымі сьцяжкамі раздавалі гасьцям імі зробленыя букецікі кветак.

Акадэмія закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", і затым усе прысутныя былі запрошанныя да багата застаўленых стравамі сталоў прыняць удзел у пачастунку.

З нагоды ўродзінаў прафэсара Дынглі прысутныя прасьпявалі яму "Happy Birthday" і пры чарцы віна весела правялі час у гутарках і дыскусіях паміж шматлікімі сябрамі й знаёмымі.

*М. Баяроўскі*

## КЛІЎЛЕНД

Сьвяткаваньне Дня Незалежнасьці ў Кліўленьдзе было, як заўсёды, пасьля службы ў царкве. Заля грамадзкага цэнтру "Полацак" была запаўненая беларусамі ўсіх узростаў. Адкрыў імпрэзу арганізатар сп. Пол Васілеўскі, які ў кароткім прывітальным слове заклікаў суродзічаў згуртавацца для новых намаганьняў па адраджэньню й пашырэньню беларускага жыцьця ў Агаё.

Потым са зьместоўным дакладам выступіў Старшыня Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня сп. Сямён Шарэцкі, прыезд якога на сталае жыцьцё ў Кліўленд дазваляе спадзявацца, што ў хуткім часе "правінцыйны" Кліўленд можа стаць адным з палітычных цэнтраў беларускага замежжа. Выдатны даклад сп. Шарэцкага выклікаў шматлікія пытаньні ў прысутных. Потым усе ўдзельнікі сьвяткаваньня разам адсьпявалі гімн "Магутны Божа". Галасы сьпевакоў царкоўнага хору, якім кіруе сп. Аляксандар Яноўскі, гучалі як гімн незалежнай Беларусі.

Пасьля афіцыйнай часткі клопатамі сяброў сп. Пола Васілеўскага быў наладжаны добры пачастунак. Ня глядзячы на пачатак вялікага посту, апетыт у нашых беларусаў быў выдатны, а настрой па-сьвяточнаму узьняты.

У канцы красавіка адбыліся перавыбары кіраўніцтва беларускага грамадзкага цэнтру "Полацак". Камітэт, як і раней, узначаліў адзін з самых актыўных беларусаў у Амэрыцы сп. Анатоль Лук'янчык. Добраю дапамогаю старшыні будуць сябры камітэту, маладыя беларусы, якія маюць магчымасьць й жаданьне прынесьці як мага больш карысьці беларускай справе.

Карыстаючыся нагодаю, хацелася-б праз газэту павітаць аднаго з заснавальнікаў беларускай грамады ў Кліўленьдзе сп. Кастуся Калошу, які зараз знаходзіцца ў Беларусі. Ня глядзячы на свой сталы ўзрост і хваробы, ён знайшоў сілы наведаць Бацькаўшчыну. Здароў'я табе і моцы, дарагі Кастусь, ад усіх беларусаў Кліўленду.

*Сяргей Васільеў*

## РЫЧМОНД ГІЛ, НЬЮ ЁРК

У нядзелю 24-га сакавіка, напярэдадні 84-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі ў беларускай праваслаўнай царкве Св. Кірылы Тураўскага, якая месьціцца на 104 Атлянтык Авеню ў Рычмонд Гіл, правілі Багаслужбу айцы Грэгары й Майкл. Пасьля Багаслужбы з нагоды найважнейшага беларускага сьвята сьвятары адслужылі малебен за Беларусь і беларускі народ.

Хорам кіраваў сп. Вялянтын Дзямешчык. У канцы хор прасьпяваў "Многія лета", а закончыў малебен малітваю "Магутны Божа".

*К. Верабей.*




# Весткі й Паведамленьні

**ньюёрскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня**

**Viestki j Paviedamlenni**

**Belarusan American Association, Inc.**

✉ 166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 **Сусьветнае павуціньне:** http://bielarus.org **№6 (436)**


## ЗЯНОН ПАЗЬНЯК ПРА ПАЛІТЫЧНЫЯ ТЭНДЭНЦЫІ Ў БЕЛАРУСІ

13-га красавіка адбыўся сход Нью ¨рскага аддзелу БАЗА. На пачатку старшыня аддзелу В. Зайка распавёў пра жыцьцё аддзелу і азнаёміў з падзеямі ў Беларусі за апошні месяц.

Затым з гутаркай пра тэндэнцыі грамадскага і палітычнага разьвіцьця Беларусі выступіў Старшыня Беларускага Народнага Фронту сп. Зянон Пазьняк. ¨н даў свой аналіз падзеяў, што адбыліся ў Беларусі за апошнія паўгады, адзначыўшы, што палітыка Пуціна, скіраваная на прыўлашчваньне Беларусі шляхам набыцьця беларускай уласнасьці, дае вынік. Эканоміка фактычна падрыхтаваная да здачы ў Расею. За сьпінай Лукашэнкі Расея навязвае кантакты з дырэктарамі прадпрыемстваў, каб спрыяць таннай прыватызацыі ў расейскія рукі. Але Лукашэнка ня церпіць канкурэнтаў, таму некаторыя дырэктары апынуліся за кратамі. Гэта гульня гіенаў, у якой перамагае мацнейшая.

Акрамя перамогі Лукашэнкі на выбарах асноўны непрыемны факт той, што Беларускі Народны Фронт фактычна адсунуты ад рэальнай палітыкі. Нямеччына і Г.-Г. Вік стварылі шэраг падстаўных арганізацыяў і кааліцыю постсавецкай намэнклятуры, для якой непрыймальныя беларускія нацыянальныя каштоўнасьці. Быў прыцягнуты намэнклаятуршчык Домаш, лічыўся "экспэртам" у нацыянальных пытаньнях, гаворыць па-беларуску. Але нават ён быў без тлумачэньняў адсунуты на карысьць больш прамаскоўскага Ганчарыка, былога члена бюро ЦК КПБ, што ішоў калісьці на выбары супраць БНФ, клянучы "фашыстамі" й "паліцаямі". ¨н не зрабіўся нацыянальна сьведамым змагаром за Беларусь. Ці быў Ганчарык альтэрнатывай Лукашэнку? Не, ён здаў-бы Беларусь з канцамі, і ягоная сёнешняя дзейнасьць доказ гэтаму.

Прамоўца адзначыў, што адной з найшкодных тэндэнцыяў у Беларусі ёсьць агульнае пляжаньне беларускага народу сім-тым з інтэлігенцыі й апазыцыйных дзеячоў. Між тым народ гэты не скарыстаў і малой долі свайго патэнцыялу, і гэта ўсьведамляе кожны, хто быў у гушчыні народу, ведае пра яго ня толькі з газэтаў.

У грамадзтве ідуць зьмены, але сёньня ніхто пакуль не паказвае выхаду, ніхто ня кажа, што рабіць. І пераможа тая сіла, якая валодае самай вялікай ідэяй. А ў Беларусі ніхто, акрамя БНФ і нацыянальна сьведамых сілаў, такой ідэі ня мае. Таму зноў на першы плян выходзіць патрэба нацыянальнага асьветніцтва. Бо нічога не зробім, калі ня будзе людзей, якія разумеюць хто яны, дзе і для чаго жывуць. У перыяд міжчасоўя трэба рыхтаваць кадры, бо пасьля ня будзе калі. Антыбеларускія сілы выдатна разумеюць гэта, і менавіта таму зьбіваюць за ўжываньне беларускай мовы, зачыняюць беларускія школы, не дазваляюць атрымлівіць вышэйшую адукацыю па-беларуску. А простая сума ведаў самая па сабе зусім ня робіць з чалавека сапраўднага грамадзяніна. Калі чалавек абазнаны ў квантавай фізіцы, будоўлі мастоў ці мэдыцыне, але нічога не цяміць ў гісторыі сваёй краіны й з грахом напалам зьвяжа два словы па-беларуску, дык усе ягоныя веды другасныя. Таму перш патрэбна асэнсаваньне сябе, свайго месца ў сьвеце. Трэба веданьне ідэяў, бо менавіта ў сьвеце ідэяў ідзе вызначальны працэс фармаваньня будучыні народу і краю.

Сытуацыя цяжкая, але ўнутраныя сілы беларускага народу і нацыянальнага руху яшчэ не раскрытыя, іх трэба рэалізоўваць. І дзеля гэтага КХП БНФ назапашвае сілы, вядзе асьветніцкую працу, да якой трэба каб далучалася як мага больш людзей.

*В. Зайка*

## БЕЛАРУСКАЯ ТЭМАТЫКА НА КАНФЭРЭНЦЫІ Ў НЬЮ ЁРКУ

11-13-га красавіка ў Калюмбійскім унівэрсітэце прайшла Канфэрэнцыя Асацыяцыі Вывучэньня Нацыянальнасьцяў (АВН), што яднае дасьледчыкаў у розных галінах вывучэньня нацыянальных рухаў і разнастайных асьпэктаў палітычнага, грамадскага, эканамічнага жыцьця й гісторыі краінаў Усходняй Эўропы й Эўразіі, што некалі ўваходзілі ў камуністычны блёк пад кіраваньнем савецкай Расеі. Канфэрэнцыя ладзіцца АВН раз на год супольна з Інстытутам Гарымана пры Калюмбійскім унівэрсытэце. На канфэрэнцыю звычайна прыяжджаюць навукоўцы, палітычныя дзеячы й аналітыкі з розных краінаў. Гэта ёсьць ці не адзіная навуковая імпрэза ў Паўночнай Амэрыцы, на якой разглядаюцца й абмяркоўваюцца пытаньні, зьвязаныя з беларусаведай, а менавіта: зь беларускім нацыянальным рухам і палітыка-эканамічным станам у Беларусі.

Канфэрэнцыя праходзіла ў Міжнародным будынку Калюмбійскага ўнівэрсытэту.

Як заўсёды, было сэкцыйнае паседжаньне, прысьвечанае Беларусі й шэраг дакладаў на беларускую тэматыку на іншых сэкцыях. Гэтым разам сэкцыйнае паседжаньне мела назву "Беларусь пасьля прэзыдэнцкіх выбараў", хаця даклады на ім не былі абмежаваныя толькі гэтай тэмай.

Вольга Бялова зь Ейльскага ўнівэрсытэту і парыскага Інстытуту палітычных дасьледаў у сваім дакладзе "Прэзыдэнцкія выбары ў кантэксьце палітычнай кансалідацыі рэжыму ў Беларусі" разгледзела функцыянаваньне афіцыйных палітычных інстытуцыяў у Беларусі, прааналізавала іх дзейнасьць падчас прэзыдэнцкіх выбараў. Дакладчыца адзначыла, што сыстэма інстытуту ўлады збудаваная па прынцыпе палітычнага патранажу. І такая сыстэма ня мае нічога агульнага з інтарэсамі дзяржавы й нацыі ў цэлым. Найбольш яскравыя прыклады - прэзідэнцкая вертыкаль і дзяржаўныя масавыя сродкі. Найгалоўнейшая умова функцыяваньня такой сыстэмы - падаўленьне канкуруючых структураў, ужываючы ўсе наяўныя сродкі ўлучна з фальсыфікацыяй і тэрорам.

Прафэсар з канадыйскага ўнівэрсытэту Албэрты, аўтар некалькіх кнігаў пра Беларусь Дэвід Марплз выступіў з дакладам, падрыхтаваным разам з Уладзімерам Падголам зь Беларускага Народнага унівэрсытэту, пра дынаміку прэзыдэнцкіх выбараў. Дакладчык ахарактэрызаваў кандыдатаў у прэзыдэнты й прааналізаваў тактыку апазыцыі й рэжыму. На думку праф. Марплза апазыцыя запозьнена вылучыла адзінага кандыдата, не прапанавала дэталёвай прагрмы, інфармацыя пра апазыцыю была фактычна заблякаваная. Апазыцыя ня здолела скарыстаць інфармацыю аб зьнікненьні палітычных апанэнтаў рэжыму для ўзмацненьня сваіх пазыцыяў. Акрамя ўсяго, Лукашэнка меў да сваіх паслугаў усе дзяржаўныя масавыя сродкі, тысячы функцыянэраў, што ў працоўны час і за грошы падаткаплатнікаў вялі ягоную перадвыбарчую кампанію і кантралявалі ход галасаваньня. ¨н шырока карыстаў папулісцкія жэсты як падвышэньне сярэдняй зарплаты да 100 даляраў, і кантраляваў своечасовую выплату пэнсіяў. Лукашэнка панаваў у масавых сродках і ў дзяржаўным друку, і на тэлевізіі выглядаў значна прывабней за апанэнтаў. Адным з вырашальных чыньнікаў у перамозе Лукашэнкі была, на думку дакладчыка, падтрымка Расеі.

Надзя Лісоўская з Манчэстарскага унівэрсытэту ў сваім дакладзе распавяла пра эканамічную трансфармацыю ў постсавецкіх краінах на прыкладзе Беларусі. Асноўная праблема краінаў зь пераходнай эканомікай - манэтарны вакуум або адсутнасьць капіталаў для разьвіцьця эканомікі, што ёсьць наступствам пераходу ад цэнтральнага плянаваньня да рынку. Беларусь мае некаторыя адмысловыя рысы - немажлівасьць цалкам легальнага прыватнага прадпрыймальніцтва дзеля непрапарцыянальнага падаткавага ціску й адсутнасьці субсыдыяў, працяг адміністрацыйнага размеркаваньня рэсурсаў. Меры па дэманапалізацыі эканомікі, што пачалі праводзіцца ў першай палове 1990-х гг., фактычна спыненыя. Усё гэта, разам з адсутнасьцю канкурэнцыі, прывяло да таго, што беларуская прадукцыя саступае замежным таварам, не дае прыбытку, а значыць і заробкаў.

Алекс Даніловіч з Казахскага Інстытуту Мэнэджмэнту выступіў з дакладам аб уплыве традыцыйнай культуры на дэмакратызацыю ў Беларусі. На думку дакладчыка, няўдача Беларусі ў пераходзе ад аўтарытарнага кіраваньня да прадстаўнічай дэмакратыі палягае ў своеасаблівых культурных рысах беларускага грамадства, што ўлучаюць эгалітарызм, калектывісцкае мысьленьне, тэндэнцыю дзейнічаць у грамадзе. Такі тып культуры надзяляе лідараў бескантрольнай уладай. Прамоўца адзначыў, што Лукашэнка скарыстаў гэтыя рысы насельніцтва каб прыйсьці да ўлады й кансалідаваць яе ў сваіх руках.

*Працяг на бач. 6*

**НАСТУПНЫ СХОД НЬЮ ЁРСКАГА АДДЗЕЛУ БАЗА БУДЗЕ СПРАВАЗДАЧНА-ВЫБАРЧЫМ. ЗАКЛІКАЕМ УСІХ СЯБРОЎ АДДЗЕЛУ ПРЫЙСЬЦІ Й УЗЯЦЬ УДЗЕЛ У ВЫБАРАХ КІРАЎНІЦТВА. СХОД АДБУДЗЕЦЦА 13-га КРАСАВІКА 2002 ГОДУ Ў ФУНДАЦЫІ ІМЯ П. КРЭЧЭЎСКАГА ПА АДРАСУ:**

**166-34 GOTHIC DR., JAMAICA**

*Даезд цягнікам падземкі F да 169th Street.*

### Уплаты ў нью ёрскі аддзел БАЗА:

**Складкі:**

**І. Фанская . . . . . . . .30** **В. Яфрэменкаў . . . .30**

**Усе ўплаты ў аддзел дасылайце скарбніку аддзелу на адрас:**

*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*
*Чэкі выпісвайце на Belarusan American Association.*

**Ахвяраваньне на БелПом дасылайце на адрас:**

*A. Mickievic*
*90-16 54th Ave*
*Elmhurst, NY 11373*
*Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя A. Mickievic*



# З думкай пра радзіму

## Новыя музычныя творы Міхася Клейнера

Сярод людзей, каго добра ведаюць сёньня ў нашым іміграцкім асяродзьдзі ў Чыкага, я-б вылучыў імя Міхася Клейнера, паэта, перакладчыка, кампазытара й выканаўцы ўласных песьняў. Нядаўна ён завяршыў працу над новай вакальна-музычнай кампазыцыяй: напісаў вялікую колькасьць песьняў і рамансаў на апошнія творы вядомых беларускіх паэтаў Рыгора Барадуліна і Генадзя Бураўкіна.

- Я нарадзіўся ў Парычах, выхоўваўся ў беларускім і яўрэйскім асяродку, - расказаў Міхась Клейнер карэспандэнту "Беларуса". - Лічу сябе сынам Беларусі. Ніколі не забываў беларускай мовы, мне вельмі блізкая тэма Беларусі, тэма радзімы. Ужо болей за дзесяць гадоў жыву ў Амерыцы, і ўвесь час імкнуся не адрывацца ад беларускай культуры й беларускай духоўнасьці. Яшчэ да ад'езду я напісаў лірычны раманс "Дагэтуль незабытая" на словы Рыгора Барадуліна. Памятаю, як я тады пазваніў яму, прасьпяваў гэты раманс, і ён яму вельмі спадабаўся. Першую песьню на словы Генадзя Бураўкіна я напісаў недзе ў 1993-м годзе, перад тым, як ён прыехаў да нас у Чыкага ў сакавіку на сьвяткаваньне Дня Волі, тады ён быў прадстаўніком Беларусі ў ААН. Пасьля гэтага я штогод пісаў новыя песьні й рамансы на словы беларускіх паэтаў, прычым я выбіраў тое, што было мне па зьместу вельмі блізка, што, як кажуць, было да сэрца. Так зьявілася мая музыка да "Я ад вас далёка" Янкі Купалы, "О Беларусь, мая шыпшына" Уладзімера Дубоўкі, "Сьпявай мне, дзяўчына, пра кветкі, пра гай" Міхася Чарота, "Мой алень" Аляксея Пысіна, "Ціха плыў месяц" і "Люблю я сонца залатое" Натальлі Арсеньневай, "Мне на вас не глядзець..." Алеся Салаўя, "Два промні" Сяргея Панізьніка й шэраг іншых твораў. Я ўсё гэта выконваў на імпрэзах ня толькі ў беларускім, але і ў расейскамоўным і яўрэйскім асяродках у нас у Чыкага, і заўсёды гэтыя песьні й рамансы мелі посьпех. Я не думаў пра гэта, але аказалася, што тэксты бальшыні зь іх - пярліны нашай беларускай паэзіі, прычым пярліны сусьветнага ўзроўню. Часам такой пярлінай можа стацца пераклад, як, напрыклад, верш "Вечар. І цёплыя росы..." выдатнага яўрэйскага паэта Ізі Харыка, які бліскуча пераклаў на беларускую мову Пятро Глебка. Гэты пераклад я таксама выконваю на ўсіх сваіх канцэртах.

А нядаўна мне давялося прачытаць новыя кніжкі: "Лісты ў Хельсінкі" й "Зорка спагады" Рыгора Барадуліна ды "Паміж зоркай і сьвечкай" Генадзя Бураўкіна. Шчыра прызнаюся: я ўбачыў нібы зусім новага Барадуліна, адчуў зусім новыя лірычныя інтанацыі ў яго паэзіі. Многае проста зьдзівіла: аказваецца, ён вельмі глыбокі лірык, у яго творах спалучаюцца шчырасьць пачуцьцяў з глыбокім філязофскім роздумам.

*На радзіме расьце трава*
*Няпрытуленага блуканьня.*
*На радзіме ня спіць сава*
*Дакараньня і дараваньня...*

Радкі накшталт гэтага (я цытаваў "Ліст дзесяты"), зьвернутыя да Васіля Быкава, адразу западалі ў душу і сэрца... Я быў вельмі ўзрушаны, усхваляваны, і амаль за два месяцы напісаў музыку да 17 рамансаў на вершы Рыгора Барадуліна. Перад гэтым я праслухаў дыск з запісам музыкі Алеся Камоцкага да вершаў зборніка "Зорка спагады", і мне захацелася зрабіць нешта сваё, у іншай стылістыцы, нібы праз роздум маіх ужо сталых гадоў. Вельмі добрае ўражаньне пакінулі вершы Генадзя Бураўкіна ў зборніку "Паміж зоркай і сьвечкай", я адкрыў для сябе многае ў гэтым цікавым паэце і таксама напісаў музыку да яго дванаццаці вершаў. Асабліва ўзрушыў мяне ягоны паэтычны перагук "Шумела Нарач..." са славутай пастэрнакаўскай "Свеча горела..." ды й многія іншыя творы.

Нам застаецца дадаць, што прэзэнтацыя новага вакальна-музычнага цыклу Міхася Клейнера на словы Рыгора Барадуліна і Генадзя Бураўкіна адбылася ў Чыкага падчас сакавіцкіх сьвяткаваньняў у праваслаўнай царкве сьвятога Юр'я і ў грамадзка-культурным цэнтры пры каталіцкай царкве Хрыста-Збаўцы, а таксама на адмысловай вечарыне, якая адбылася 30-га сакавіка ў вялікай зале чыкагскага ОРТ-інстытута. Вечарына гэтая была таксама прысьвечаная прэзэнтацыі зборніка вершаў і перакладаў Міхася Клейнера, які толькі што надрукаваны й мае назоў "Мелёдыі любові".

*З Міхасём Клейнерам гутарыў* ***Ванкарэм Нікіфаровіч (Чыкага).***



***На здымках: Міхась Клейнер***

*Працяг з бач. 5*

# Беларуская тэматыка на канфэрэнцыі ў Нью Ёрку

Нажаль, дакладчык не акрэсьў свайго канкрэтнага вызначэньня беларускай традыцыйнай культуры й нават улучыў туды нібыта ўласныя беларусам непавагу да закону і "саборнасьць" (расейскі праваслаўны канцэпт, што яднае патэрналізм і калектывісцкае мысьленьне). Непераканаўча прагучаў і тэзіс, што Канстытуцыя 1994-га году была быццам адрынутая народам як занадта празаходняя.

З дыскусыйным аглядам прачытаных дакладаў выступіла Аляксандра Гужон, дактарант Цэнтру Дэвіса па Расейскіх Досьледах пры Гарвардзкім унівэрсытэце. Яна выказала свае думкі па дакладах і датычных тэмах і паставіла шэраг пытаньняў выступоўцам.

На пытаньне аб скарыстаньні справы зьніклых праф. Д. Марплз адказаў, што калі-б апазыцыя больш абгрунтавана прадставіла факты, дык справа магла-б мець большы ўплыў на насельніцтва.

Сп. А. Даніловіч на пытаньне, чаму праваслаўная і былая камуністычная краіна Баўгарыя рухаецца зусім у іншы бок, чым роднасная ёй па шмат якіх паказчыках традыцыйнай культуры Беларусь, адказаў, што гэта ёсьць тэма для асобнага, дужа вартага ўвагі, дасьледваньня. На маё пытаньне, ці варта гарнуць беларусаў з расейцамі й украінцамі ў адзін кантынуум па рысах традыцыйнай культуры, а таксама прыпісваць ім генэтычную непавагу да законаў, сп. Даніловіч адказаў, што ягоны даклад ёсьць пэўным спрашчэньнем і акцэнтуе ўвагу на дзеяньнях рэжыму.

Пытаньне пра скарыстаньне нацыянальнай ідэі да праф. Марплз задала студэнтка Калюмбійскага ўнівэрсытэту Каця Салавей. Праф. Марплз адказаў, што ў Беларусі ўжываньне нацыянальнай ідэі ня можа зрабіцца самадастатковай палітыкай. Аднак тое, што нацыянальную ідэю яшчэ зарана высоўваць у якасьці перадвыбарчай стратэгіі, характэрна для ўсіх постсавецкіх краінаў. З часам гэта безумоўна зьменіцца.

Зь іншых дакладаў на канфэрэнцыі варта адзначыць "Нацыянальнае адраджэньне ў ідэялёгіі Ўкраінскага Руху і Беларускага Народнага Фронту ў апошнія гады СССР" Алясандры Гужон (Гарвардзкі унівэрсытэт); "Гульня эканамічных інтарэсаў у працэсе інтэграцыі паміж Расеяй і Беларусьсю" Юліі Шукан і Альвару Артыгаса (Парыскі Інстытут палітычных досьледаў); "Ацэньваючы моўную палітыку ў Беларусі: рэабілітацыя ці пагібель беларушчыны?" Тоні Браўна (Брын Маўр Калэдж); "Мы ці яны? Беларусы й чыноўная Расея, 1863-1914" Тэадора Ўыкса (Паўдзённа-Ілінойскі ўнівэрсытэт); "Бюракратычнае мысьленьне як перашкода нацыяналізму: Русыфікацыя Паўночна-Заходняга краю Расейскай імпэрыі ў 1860-я гг." Міхаіла Далбілава (Варонескі дзяржунівэрсытэт).

Наагул канфэрэнцыя стала заўважнай зьявай у навуковым жыцьці Паўночнай Амэрыкі, і колькасьць дакладаў, прысьвечаных беларускай тэматыцы, дае спадзяваньні адносна далейшага росту цікавасьці да беларусаведнай дасьледчай працы. якой гэтак бракуе паўсюль (нават у самой Беларусі яна далёка не задавальняльная), але асабліва тут, у Амэрыцы.

***Віталь Зайка***

*Працяг з бач. 5*

# З В А Р О Т да беларускай грамадзкасьці

## УЗОР НАПІСАНЬНЯ ЛІСТА ДА КАРДЫНАЛА

**Яго Эмінэнцыі Кардыналу Ігнацыю Мусу Давуду**
**Sua Eminenza Cardinale Ignace Moussa Daoud**
**Prefetto della Congregazione per le Chiese Orientali**
**00120 Citta del Vaticano**
**VATICAN CITY**

**Ваш адрас**________________
**Дата**________________

Вашая Эмінэнцыя!

Я зьвяртаюся да Вас з вялікай трывогай аб лёсе сусьветна вядомага беларускага духоўнага цэнтру - Беларускае Каталіцкае Місіі ў Лёндане - і ейнага сэрца - Марыян Гаўзу з капліцай сьвсв. Апосталаў Пятра і Паўла.

Марыян Гаўз уяўляе сабой унікальную рэлігійную й культурную каштоўнасьць для некалькіх пакаленьняў беларусаў. Ён асабліва істотны для нас цяпер, калі Беларусь перажывае балючы працэс палітычнага й рэлігійнага станаўленьня. Страта Марыян Гаўзу можа стацца непапраўнай шкодаю для захаваньня ды разьвіцьця беларускае духоўнасьці.

Вашая Эміненцыя, я спадзяюся на Вашую мудрасьць і дальнабачнасьць у прыняцьці канчатковага рашэньня пра Марыян Гаўз і веру ў кіраўніцтва Сьвятога Духа ва ўсіх Вашых справах на карысьць Сьвятое Царквы й верных.

З пашанаю,

Votre Eminence, Avec une grande inquetude, je m'adresse a vous pour attirer votre attention sur le sort du centre religieux bielarussien, renomme dans le monde entier. C'est la Mission Catholique Belarussienne a Londres et son cur - Marian House avec la chapelle des Saints Apotres Pierre et Paul.

Pour plusieurs generations des bielarussiens, Marian House represente une valeur religieuse et culturelle unique. Et c'est surtout maintenant, quand la Bielarussie traverse une periode d'epreuve de son identite politique et religieuse, que le role de ce centre est inestimable. La perte de Marian House pourrait causer un dommage irreparable a la cause de preservation et de developpement de la culture spirituelle bielarussienne.

J'ai le ferme espoir, Votre Eminence, que votre decision finale sur Marian House fera preuve de vos sagesse et prevoyance, et je crois aux conseils de l'Esprit Saint dans tout ce que vous faites pour la Sainte Eglise et pour ses croyants.

Je vous prie d'agreer, Votre Eminence, l'assurance de mes sentiments devoues.

**(імя, прозьв.)** ________________ **(nom, prenom)**
**(подпіс)** ________________ **(signature)**

# БЕЛАРУСАВЕДНАЯ ПАНАРАМА НА ЗАХАДЗЕ

Стан беларускае нацыянальнае справы мае розныя паказальнікі. Адзін зь іх - колькасьць беларусаведных навуковых працаў на галоўных мовах Захаду. Мерка гэтая апошнімі гадамі значна пабольшала. Арыентавацца ў новай навуковай літаратуры пра Беларусь дапамагаюць квартальныя бюлетэні: англамоўны "Belarusian Review", нямецкамоўны "Belarus-News" ды французскамоўны "Perspective bielorusiennes". Паводле гэтых трох ды іншых крыніцаў, апошнімі трыма гадамі выйшла ці мала беларусаведных кнігаў. Адзначым некаторыя з найбольш значных.

У нямецкім выдавецтве Vandenhoeck & Ruprecht выйшла ў 2001 г. вялікая кніга (542 ст.) "Handbuch der Geschichte Weissrusslands" /Падручнік гісторыі Беларусі/ пад рэдакцыяй Дытрыха Байрава і Райнэра Ліндnэрам. У напісаньні кнігі ўзялі ўдзел 24 беларускія й замежныя аўтары. У падручніку апісваюцца гістарыяграфія й гэральдыка, храналёгія падзеяў, сацыяльная й культурная гісторыя, рэлігія, мова, літаратура ды іншае. Пасьля манаграфіі Ойгена Энгельгардтa пра Беларусь (1943 г.) гэта найбольш грунтоўная гісторыя Беларусі на нямецкай мове.

У тым самым годзе выйшла ў кёльнскім выдавецтве Verlag Wissenschaft und Politik праца нямецкіх гісторыкаў Райнэра Ліндnэра й Барыса Майснэра "Die Ukraine und Belarus' in der Transformation: eine Zwischenbilanz" /Украіна й Беларусі ў пераходнай стадыі - параўнаньне/.

У 2001 г. выйшаў нямецка-беларускі размоўнік Гольгера Кнаўфа "Reise Know-How" (176 ст.). Прызначаны ён галоўна для падарожнікаў, але ня толькі. Ён будзе карысны шматлікім нямецкім наведнікам Беларусі ў сувязі з чарнобыльскай дапамогай, якую аказваюць немцы. У кнізе пададзеная кароткая граматыка беларускай мовы, а таксама правілы словаўтварэньня. Дзеля лягчэйшага апанаваньня фанэтычных асаблівасьцяў беларускае мовы да кнігі дададзеныя касэткі.

У нямецкім выдавецтве Internatiolnales Bildungs- und Bewegungswerk (IBB) выйшаў летась зборнік успамінаў пад заг. "Martyrer der belarussischen Christen im 20. Jahrhundert" /Мучанікі беларускага хрысьціянства ў 20-м стагодзьдзі/. Тут згадваюцца рэлігійныя дзеячы праваслаўнага, каталіцкага й пратэстанцкага веравызнаньняў, шмат хто зь якіх працаваў адначасна й на ніве нацыянальнага адраджэньня.

У выдавецтве Boehlau Verlag выйшла ў 2000 г. па-нямецку праца Ўладзіміра Сакалоўскага "Беларусь і Нямеччына. Духовыя й культурныя сувязі паміж 1914-м і 1941 г." (319 ст.).

Годам раней тое самае выдавецтва выдала англамоўную працу брытанскага аўтара праф. Арнольда МакМіліна пра беларускую літаратуру 1950-х і 1960-х гадоў. У кнізе дадзеныя ацэнкі цэламу шэрагу пісьменьнікаў, часта вельмі адрозныя ад ацэнак, якія ім даваліся ў айчыннай літаратурнай крытыцы. Гэтая МакМілінава кніга выйшла летась у беларускім перакладзе ў Менску ў сэрыі "Беларускі кнігазбор". Праф. МакМілін працуе цяпер над аглядам беларускае літаратуры 70-х - пачатку 90-х гадоў.

З выдадзеных у Амэрыцы працаў трэба адзначыць кнігу (200 ст.) пад рэдакцыяй Шэрмана Гарнэта й Робэрта Легвольда "BELARUS at the Crossroads" (выдавецтва Carnegie Endowment for International Peace, 1999). Кніга на тэму палітыкі ў дачыненьні да Рэспублікі Беларусь дзяржаваў, якія мяжуюць зь Беларусяй, а таксама Злучаных Штатаў. Спэцыялісты геапалітычных пытаньняў (два амэрыканцы, летувіс, украінец, расеец і паляк) выказаліся ў пытаньнях двубаковых дачыненьняў зь Менскам. Пагляд зь Менску на геапалітычныя праблемы, што стаяць перад Беларусьсю, прадставіў палітоляг Анатоль Розанаў. Рэдактары кнігі, падсумоўваючы, адзначылі, што Беларусь можа адыгрываць у сваім рэгіёне важную геапалітычную ролю ды што дасюль Захад недастаткова зьвяртаў на яе ўвагу.

У выдвецтве University Press of America выйшла ў 1999 г. вялікая праца Вітаўта Кіпеля "Belarusans in the United States" (569 ст.). Кніга ілюстраваная. У ёй аўтар разглядае канцэпт беларускасьці, дае гісторыю пасяленьня беларусаў у ЗША, аналізуе амэрыканскую дэмаграфічную статыстыку, каб вызначыць у ёй беларусаў, ды апісвае дэтальна беларускія асяродкі й іхную дзейнасьць.

Канадзкі гісторык Дэйвід Марплз, які спэцыялізуецца ў вывучэньні сучаснай Беларусі, апублікаваў у 1999 г. манаграфію (139 ст.) пад заг. "BELARUS. A Denationalized Nation" (Harwood Academic Publishers). На пачатку кнігі аўтар ставіць пытаньне: "ці Беларусь можа выжыць як незалежная дзяржава?". І ў канцы адказвае на яго: "Беларусь выжыве й знойдзе сваё месца ў сьвеце ў 21-м стагодзьдзі".

Англамоўная кніга пра сьв. Кірылу Тураўскага, пад заг. "Кірыла Тураўскі: епіскап, прапаведнік, аўтар гімнаў" (230 ст.) выйшла ў 2000 г. пад рэд. Інгуна Люндэ (Ingunn Lunde) у выдавецтве Бэргенскага ўнівэрсытэту ў Нарвэгіі.

"Modern Art in Belarus. Moderne Kunst in Wit-Rusland" - вялікі (300 ст.) і якасны мастацкі альбом з артыкуламі пра сучаснае мастацтва ды біяграфічнымі даведкамі пра мастакоў. Выдавец: Peter Noldus Amsterdam (E-mail: noldus@art-lover.com). Тэксты ў кнізе па-ангельску й па-галяндзку. Біяграфічныя даведкі дадзеныя парасейску й па-беларуску (беларускі пераклад Валянтыны Трыгубовіч). У альбоме прадстаўленыя два пакаленьні мастакоў з даволі грунтоўным аналізам іхных твораў.

Некалькі кнігаў пра Беларусь выйшла ў Францыі па-француску. Сярод іх варта адзначыць манаграфію Бруна Дрвэскага "'Малы беларускі парлямант'. Беларусы ў польскім парлямансе паміж 1922 і 1930 гг."

Маладая дасьледніца Аляксандра Гужон (Alexandra Goujon) апублікавала сваю доктарскую дысэртацыю "Нацыяналізм і дэмакратыя. Народныя фронты на Ўкраіне й Беларусі (1988-1991)". Кніга адзначаецца грунтоўным вывучэньнем разгляданых пытаньняў. Выйшла летась у выдавецтве парыскага Інстытуту палітычных навук.

"Хроніка сучаснай Беларусі" завецца публікцыя (349 ст.), апрацаваная Александрай Гужон, Шарлем Ляляемандам і Вірджыніяй Шыманец. Кніга выйшла летась у Парыжы ў выдавецтве l'Harmattan. У гэтым выдавецтве заплянаваная таксама праца Ўладзіка Іванова "Беларускія жанчыны й нацыянальная ідэя".

Тут трэба адзначыць таксама зборнік (249 ст.) "Annus Albaruthenicus 2002 - Год беларускі 2002". Гэта - трэці выпуск гадавіка літаратуразнаўчых матэрыялаў (паэзія, проза, крытыка, пераклады), які выходзіць пад рэд. Сакрата Яновіча ў Крынках на Беласточчыне. Матарыялы ў збоніку на розных мовах: беларускай, французскай, ангельскай, швэдзкай ды італьянскай. Мэта выданьня - інфармаваць вонкавы сьвет пра беларускую культуру, а беларусаў - пра культуру заходнюю.

Значна больш, чымся лік кнігаў, зьяўляецца ў навуковых выданьнях на Захадзе артыкулаў пра Беларусь. Улік бягучай бібліяграфіі беларусікі на мовах сьвету вядзе, наколькі дазваляе рэсурс супрацоўнікаў, менскі інфармацыйна-аналітычны й культуралягічны бюлетэнь "Кантакты і дыялогі" (E-mail: maldzis@pen.unibel.by).

***Янка Запруднік***

# ШКОЛЫ Ў ЧЫКАГА

7-га сакавіка а 6-й гадзіне вечара ў штатным будынку пад адрасам 100 Вэст Рэндолф Стрыт у Чыкага была зладжаная праграма наданьня граматаў узнаньня губэрнатарам Ільлiной для этнічных суботніх і нядзельных школаў для дзяцей. Прысутных на цырымоніі было больш чымся 200 асобаў улучна з прадстаўнікамі ад ліку 30-ці розных школаў.

За трыбунаю віднеўся напісаны вялікімі літарамі назоў "Governor George H. Ryan salutes ethnic schools of Illinois" (Губэрнатар Джордж Г. Раян ушаноўвае этнічныя школы ў Ільлiной). Запрошаныя гасьцей перад пачаткам праграмы частавалі печывам і пуншам.

Праграма пачалася а 7-й гадзіне ўнясеньнем амэрыканскага і штату Ільлiной сьцягоў польскімі скаўтамі й адсьпяваньнем амэрыканскага гімну ўсімі прысутнымі ў суправаджэньні вакаліста Джэка Мючыё. Пасьлядоўна. Дзімітры Башко быў запрошаны сказаць малітву (invocation) па-ангельску. Праграмай кіраваў Ран Анэсті з карпарацыі імпрэзаў "Анэсті".

Аб важнасьці этнічных школаў коратка прамовіла спня Аўрэлія Пуцінскі, па-паходжаньню полька, а за ёю галоўны прамоўца штатны скарбнік Джудзі Баар Топінка (State Treasurer Judy Baar Topinka), нагадваючы аб сваім выхаваньні ў сям'і чэхаў і немцаў. Яна апэлявала да выхаваўцаў школаў і бацькоў вучыць дзяцей роднае мовы й традыцыяў, ды каб не саромеліся свайго паходжаньня й сваёй спадчыны, якія ёсьць дарам Божым для кожнага народу.

Джудзі Баар Топінка ўручала граматы ўзнаньня ад губэрнатара і з кожнай групай фатаграфавалася. Ад беларускай грамады ў Чыкага грамату ўзнаньня атрымаў а. Дзімітры Башко за школку дзяцей пры парафіі Сьв. Юр'я. На канец скарбнік Топінка фатаграфавалася і з прысутнымі на цырымоніі.

***Вера Рамук***

# ВЭЙН ГРЭЦКІ - БЕЛАРУС

Прозьвішча гэтага героя-гакэіста было да нядаўна на вуснах заўзятараў гакэю ў Амэрыцы, Канадзе і па-за гэтымі краінамі. Ня будзем узводзіць у дэталі сукцэсаў Вэйна Грэцкага, прозьвішча якога залатымі літарамі ўпісалася ў кнігу гісторыі гакэя. Ён ужо спыніў ад нейкага часу спартовую актыўнасьць з увагі на свой век.

Нас цікавіць перад усім ягонае этнічнае паходжаньне. Нядаўна мы атрымалі інфармацыю, узятую з інтэрнэту, падрыхтаваную Карлям Бэркавічам, Алексам і Васілём, рэдактарамі спартовых старонак, дасланыя нам нашым добрым прыяцелем Багданам Паукам, і яны канчаткова выясьняюць спрэчку ў гэтым пытаньні. Бо дасюль Грэцкаму прыпісвалі польскае ці ўкраінскае паходжаньне.

Сам Вэйн Грэцкі нядаўна на пытаньне журналіста пра ягонага дзеда Антона адказаў, што той эміграваў у Канаду на пачатку 20-га стагодзьдзя з Беларусі, горада Мігілёва, і быў беларусам.

Мы, беларусы, павінны быць гордымі, што нашчадак беларускага роду ўславіўся ў прэстыжным спорце гакэю.

***Др. Вітаўт Рамук***

## СЬВ. ПАМЯЦІ ЯНКА КАЛБАСА

11-га красавіка 2002-га году сваякі ды беларуская грамадзкасьць у Вялікай Брытаніі разьвіталіся са слынным Беларусам Янкам Калбасом, які памёр 4-га красавіка пасьля цяжкай працяглай хваробы.

Так склалася, што большую частку свайго жыцьця яму давялося правесьці на чужыне, далёка ад роднага дому, ад Беларусі, але ён увесь час заставаўся беларусам і шчырым патрыётам сваёй Бацькаўшчыны.

Пасьля вайны, калі многія беларусы ратаваліся ад бальшавіцкай навалы, спадар Янка Калбаса апынуўся ў Англіі. Ніколі не стаяў ўбаку ад беларускіх грамадзкіх справаў, браў актыўны ўдзел у жыцьці Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы:. Не баяўся палітыкі: быў сябрам Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі (ЗБВБ) і сябрам ABN, зьяўляўся адным з самых актыўных сябраў мясцовай арганізацыі Паняволеных Народаў у Брадфардзе. Менавіта дзякуючы яго намаганьням цягам доўгіх гадоў у Дзень Незалежнасьці 25-га Сакавіка лунаў бел-чырвона-белы сьцяг на галоўнай плошчы Брадфарду.

Янка Калбаса разам з Хведарам Лемяшонкам, які, на жаль, таксама ўжо пайшоў ад нас, заснавалі ў Брадфардзе беларускі грамадзкі клюб "Сакавік". Намаганьнямі сяброў клюбу былі ўсталяваныя памятныя табліцы ў беларускай царкве ў Манчэстэры і ў англіканскім саборы ў Брадфардзе.

Актыўны ўдзел браў Янка Калбаса і ў культурным беларускім жыцьці на чужыне. Яшчэ на самым пачатку эміграцыі, калі ў Брадфардзе працавала беларуская дзіцячая школка, ён навучаў дзяцей беларускім народным танцам і сьпевам.

Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі выказвае шчырае спачуваньне дзецям і ўнукам нябожчыка. Няхай пухам будзе яму чужая зямля і сьняцца сны пра Маці-Беларусь.

Замест кветак на магілу сьвятой памяці Янкі Калбасы ЗБВБ дало ахвяру ў 100 фунтаў на Дзіцячы Фонд "Сакавік" дзеля беларускіх дзяцей, што пацярпелі ад Чарнобыльскай катастрофы.

***Лілія Сазанавец***

## СЬВ. ПАМЯЦІ ЛЕЎ ВЫСОЦКІ (9.04.1913 - 31.03.2002)



Сьв. пам. Леў Высоцкі нарадзіўся ў Латвіі ў гор. Лібаве, дзе ягоны бацька быў чыгуначным чыноўнікам. Род Высоцкіх паходзіць з Новага Сьвержаня, што каля Стоўпцаў.

Пасьля Першай сусьветнай вайны Высоцкія вярнуліся ў Стоўпцы, адкуль была родам маці Льва. У міжваенным часе Леў скончыў сярэднюю тэхнічную школу ў Ломжы. Служыў у польскім войску марскім кадэтам. Пасьля вайсковай службы працаваў у страхавой кампаніі, а ў часе вайны - у Беларускім банку ў Стоўпцах.

У Злучаныя Штаты прыехаў у 1949 г. й пасяліўся ў Саўт-Рывэры. Быў актыўным грамадзкім працаўніком і даўжэйшы час выконваў абавязкі скарбніка Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі. Ягоная жонка Пелагея памерла ў 1978 годзе.

Пахаваны на беларускіх могілках у Саўт-Рывэры побач магілаў жонкі й бацькоў.

Вечная яму памяць!

***М.***





**Паважаныя чытачы!**
**Калі Вы яшчэ не падпісаліся на нашую газэту, то, калі ласка, зрабіце гэта неадкладна, бо з-за абмежаваных фінансавых магчымасьцяў мы ня ў стане дасылаць яе тым асобам, хто не аформіў падпіску.**

**ПАМЫЛКА ДРУКУ:**

У нумары 471 "Беларуса" ў артыкуле "Друк зь мінулага" ў першым радку: замест "Зь Міколам Прускім..." павінна быць :"Зь Міколам Паньковым...".


***БЕЛАРУС***
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
***Выдае штомесячна: БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІН-Е***
***Падпіска $30 на год.***

***BIELARUS***
*Belarusan Newspaper in the Free World*
***Published monthly by BELARUSAN AMERICAN ASS'N, Inc.***
***Subscription $30 yearly***

***Рэдагуе калегія.***
*Адказны рэдактар*
***Марат Клакоцкі***
*Тэхнічны рэдактар*
***Мікола Шыдлоўскі***
*Падпіска*
***Сяргей Трыгубовіч***

*Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.*

***Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.***



**Адрас для допісаў:**
P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735
**E-mail:**
hazetabielarus@att.net
**Сусьветнае сеціва:**
www.bielarus.org

***Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.***

### Пошукі родных ў Злучаных Штатах

Шукаю **В. Шумінскага**, былога адваката з горада Sioux City, штат Айова, бацька якога паходзіў з Капыльскага раёну Менскай вобласьці (былы Слуцкі ўезд Менскай губэрніі), і які ёсьць пляменьнікам Шумінскага Язэпа зь вёскі Вялешына Капыльскага раёну.

Пішыце на адрас: *Валеры Барташэвіч, вул.Мірашнічэнкі, 49-160, г. Менск, 220131.*

Сваякі ў Менску шукаюць у ЗША:
**Мяжэвіч Надзею дачку Рыгора 1918 г. н.**
**Мяжэвіч Віктара сына Рыгора 1928 г. н.**
**Мяжэвіч Генадзя сына Рыгора 1940 г. н.**
Калі вы ведаеце нешта пра гэтых людзей, напішыце, калі ласка, на адрас рэдакцыі.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА" АХВЯРАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| У. Набагез | 200 |
| Амэр. Сусьв. Патр-т | 100 |
| БГЦ у Саўт Рывэр | 100 |
| М. Занковіч | 100 |
| Кон Ворт | 100 |
| М. Лужынскі | 100 |
| В. Махнач | 100 |
| А. Субота | 100 |
| Н. і А. Вакуліч | 85 |
| Г. Бохар Гайда | 75 |
| В. і І. Ільчук | 70 |
| А. Занковіч | 60 |
| Л. Кавалёў | 50 |
| А. Міцкевіч | 50 |
| К. Пануцэвіч | 50 |
| У. Ракуць | 50 |
| А. Сёмуха | 50 |
| М. Русак | 40 |
| М. Чупракоў | 40 |
| М. Абрамчык | 30 |
| Л. Васільева | 30 |
| К. Верабей | 30 |
| З. і М. Вашкевіч | 30 |
| С. Дарагакупец | 30 |
| Я. Кабяка | 30 |
| Я. Каваленка | 30 |
| М. Калядка | 30 |
| Ю. Касьцюкевіч | 30 |
| В. Каўшовік | 30 |
| А. Пранцэвіч | 30 |
| Я. Пяцэвіч | 30 |
| Л. Стагановіч | 30 |
| Ю. Стагановіч | 30 |
| А. Тальянскі | 30 |
| І. Фанская | 30 |
| В. Яцэвіч | 30 |
| М. Баяроўскі | 25 |
| В. Запруднік | 20 |
| З. і В. Кіпель | 20 |
| А. Сільвановіч | 20 |
| В. Якімовіч | 20 |
| Дз. Боньдзін | 10 |
| В. Едзіновіч | 10 |
| Д. Качан | 10 |
| В. Шчэцька | 10 |
| Ю. Шкетава | 3 |
| К. Акула (кан. $) | 500 |
| У. Акавіты (аўст. $) | 50 |
| А. Руткевіч (аўст. $) | 50 |

*Шчыры дзякуй!*

## *Газэта "Беларус"*

***надрукуе бясплатна кароткія прыватныя аб'явы некамерцыйнага характару. Таксама зьмесьцім вашыя віншаваньні, запрашэньні, спачуваньні ды іншыя абвесткі. Наконт разьмяшчэньня рэклямы кантактуйце рэдакцыю.***